# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 1 (2195) 3 студзеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.

## БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» І ГАЗЕТА «ГОЛАС РАДЗІМЫ» ВІНШУЮЦЬ УСІХ СУАЙЧЫННІКАЎ НА БЕЛАРУСІ І ЗА ЯЕ МЕЖАМІ З НОВЫМ ГОДАМ!

# НАРАДЖЭННЕ РЭСПУБЛІКІ(?!)

Я НАЎМЫСНА вынес у загаловак артыкула словы, якія да нядаўняга часу традыцыйна і непарушна на працягу дзесяцігоддзяў суправаджалі дату 1 студзеня 1919 года ў якасці ісціны, што не падлягае сумненню. І, трэба сказаць, сумненняў у пераважнай большасці грамадзян БССР не было. На самай справе ў той дзень была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка ...арусь. І засталася. І існуе. На самай ...ве да таго верылі мы, ніколі раней беларускі народ не меў сваёй дзяржаўнасці і атрымаў яе ўпершыню ад Савецкай улады. Пераможны клічнік у канцы ўспрымаўся абсалютна лагічным. Хто ...меў на гэты конт сумненні — той м...ў. Хто начыста адмаўляў гэтую дату, в...начаючы іншую — 25 сакавіка 1918 года — дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай народнай рэспублікі — маўчаў тым больш. Адкрыта, і зноў жа на злосць, адмаўляючы першастудзеньскую БССР, яе святкавала беларуская эміграцыя. Узаемнае проціпастаўленне дат, за якім — процістаянне па абодва бакі разлому, што ішоў у глыбіні далёкай грамадзянскай вайны. Але ўжо перакідваюцца першыя масткі, злучаюцца ў поціску рукі, нараджаецца ўзаемаразуменне, зведзеныя непрыязнасцю, а часта і нянавісцю скулы расслабляюцца ў сяброўскіх усмешках. Спатрэбіліся дзесяцігоддзі, каб заідэалагізаванай па сталінскіх шаблонах (у нас) і антысталінскіх і антысавецкіх ( у іх) свядомасці зразумець простую ісціну: людзей аднаго народа не падзяляюць межы. Як, зрэшты, і ўсіх людзей добрай волі.

І па-іншаму бачыцца ўжо гісторыя, вызваленая з палону міфаў, скажэнняў, ілжы. Але і туман неразумення (і адзін аднаго, і падзей мінулага) усё яшчэ густы. І дае аб сабе знаць старая школа палітызацыі гісторыі.

Галоснасць раскрыла вусны тых, хто сумняваўся і адмаўляў. Дружнымі намаганнямі яны выгнулі клічнік у пытальнік, а затым пад бела-чырвона-белым сцягам узнялі сімвалам новай веры тры літары — БНР.

Сумненні — заўсёды на карысць пошуку ісціны. Жорсткае непрымірымае проціпастаўленне старых і новых пунктаў гледжання — хавае яе пад грудай знішчальных слоў, ярлыкоў, абвінавачванняў. Прымем за зыходнае і ўвогуле неабвержнае: абедзве даты рэальна існуюць у гісторыі фарміравання беларускай дзяржаўнасці як даты абвяшчэння рэспублікі — у адным выпадку Беларускай народнай, у другім — Сацыялістычнай Савецкай. Але ўтварылася, засталася і ёсць — апошняя. Іншае пытанне, якая яна, БССР, наколькі поўны яе суверэнітэт, якія межы самастойнасці яе як дзяржавы, менавіта дзяржавы ў складзе СССР, наколькі поўна яна задавальняе інтарэсы і патрэбы беларускай нацыі, усіх сваіх грамадзян. БНР жа толькі ўзышла і назаўсёды знікла за гістарычным гарызонтам. Але ж утварылася, з'явілася і пакінула след у грамадскай свядомасці, да сённяшняга дня выклікае вострыя спрэчкі. Не забылася, нягледзячы на ўсе магутныя намаганні афіцыйнай навукі і прапаганды прадставіць яе з'явай зусім нязначнай, вынікам інтрыг групкі нацыяналістаў. Значыць, нешта стаяла за ёю, нешта жывіла яе. Нешта вельмі сур'ёзнае і значнае. Нешта ж прадвызначыла такі складаны супярэчлівы агульны ход і вынік працэсу пошуку і станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Уважліва ўгледзімся ў гісторыю і заўважым агульную заканамернасць: распад поліэтнічных дзяржаўных фарміраванняў, утварэнне новых нацыянальных дзяржаў (ці адраджэнне старых, якія некалі зніклі, паглынутыя іншымі дзяржавамі) прыпадаюць на час буйных войнаў ці сацыяльных ломак, час рэвалюцый. Менавіта для такіх перыядаў характэрны хуткі рост нацыянальнай самасвядомасці народаў, магутны ўсплёск нацыянальна-вызваленчых рухаў. Беларуская дзяржаўнасць нараджалася ў эпоху трох рэвалюцый і дзвюх войнаў — сусветнай і грамадзянскай. Вось таму такім цяжкім аказаўся гэты працэс. Сама ідэя адраджэння беларускай дзяржаўнасці, спачатку на правах аўтаноміі ў складзе Расіі, узнікла ў асяроддзі маладых дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху і была сфармулявана ў якасці праграмнай Беларускай сацыялістычнай грамадой, паступова выспеўшы к 1917 году да ідэі стварэння самастойнай незалежнай беларускай дзяржавы. Але якой? Адказ гэты ў розных плынях, на якія з развіццём і паглыбленнем рэва-

[Заканчэнне на 3-й стар.].

ЗВАРОТ З'ЕЗДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР

## ДА НАРОДАЎ КРАІНЫ

Чацвёрты З'езд народных дэпутатаў СССР, які закончыў сваю работу напярэдадні Новага года, улічваючы надта складаную сітуацыю ў краіне, звярнуўся да народаў Савецкага Саюза, каб агульнымі намаганнямі прыпыніць развал дзяржавы і яе эканомікі, міжрэгіянальныя канфлікты і сепаратысцкія тэндэнцыі.

Усведамляючы меру сваёй адказнасці, мы, народныя дэпутаты СССР, зрабілі на гэтым З'ездзе ўсё магчымае, каб дабіцца стабілізацыі палітычнага і эканамічнага становішча, ажыццявіць паварот да лепшага, прадухіліць распад краіны, гаворыцца ў Звароце. З'езд прыняў усебаковую і цвёрдую праграму, якая ўвабрала ў сябе патрабаванні і надзеі савецкіх людзей, іх трывогі і клопаты.

Без вашай актыўнай і свядомай падтрымкі, без узаемадзеяння дэмакратычнай улады і народа рашэнні З'езда, нацэленыя на вывад краіны з крызісу, застануцца толькі пустым гукам. Мы разумеем гэта і таму настойліва заклікаем усіх да пазітыўнага дзеяння.

Мы клічам да грамадзянскай згоды і супрацоўніцтва кожнага, кім кіруе пачуццё рэалізму і адказнасці, хто гатовы згуртавацца і працаваць у імя дабрабыту свайго дома і сваёй краіны. Прабіў час працягнуць адзін аднаму руку — менавіта яднанне не раз выручала народы краіны ў крытычныя перыяды гісторыі.

Цяжкасці не знікнуць самі сабой. Наперадзе нямала выпрабаванняў. Але мы з адказнасцю сцвярджаем, што складваюцца перадумовы для нармалізацыі становішча.

Мы заклікаем прадоўжыць цяжкі шлях дэмакратызацыі. Ёй няма альтэрнатывы. Але калі за ўседазволенасць і беззаконне даводзіцца расплачвацца бяспекай і нават жыццямі людзей, самым першым абавязкам дзяржавы з'яўляецца ахова сваіх грамадзян.

Мы заклікаем падтрымаць заключэнне Саюзнага дагавора ў імя захавання нашай вялікай дзяржавы, якая стваралася на працягу многіх вякоў намаганнямі народаў, якія яе насяляюць. У абноўленым Саюзе ССР кожная рэспубліка нароўні з іншымі зможа рэалізаваць свой суверэнітэт і кожны чалавек раскрыць сябе як асоба. Само жыццё перасцерагае: раскол краіны выкліча падзенне жыццёвага ўзроўню, абвастрэнне напружанасці, непрадбачаныя ўскладненні ў адносінах са знешнім светам, падрыў бяспекі дзяржавы і ўсіх народаў.

Мы заклікаем усіх, хто аказаўся ўцягнутым у міжнацыянальныя канфлікты, вырашаць свае спрэчкі па-добрасуседску, не множыць гора і трагедыі, якіх і без таго занадта многа. Мы заклікаем урады рэспублік актыўна ўзаемадзейнічаць з кіраўніцтвам краіны ў пытаннях захавання правоў чалавека, абароны інтарэсаў усіх сацыяльных і нацыянальных груп.

СУМЕСНАЯ АКЦЫЯ

## ПРЫЗ—ПАЕЗДКА Ў ГЕРМАНІЮ

Асацыяцыя дзіцячай прэсы Беларусі і рад дабрачынных арганізацый ФРГ пачалі сумесную акцыю пад дэвізам «Міласэрнасць, дабрата, клопаты». Для ўдзелу ў ёй запрашаюцца ўсе дзеці нашай рэспублікі, але асабліва з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Першае, што вырашана зрабіць неадкладна, — правесці конкурс юных мастакоў на тэму «Чарнобыль».

Няхай не бянтэжыць дзяцей і дарослых такое сур'ёзнае заданне, гавораць арганізатары конкурсу. У сваіх малюнках яны могуць адлюстроўваць усё, што ім хочацца: прыроду, фантастыку, знаёмых людзей, уласныя перажыванні... Журы мае намер разглядаць работы індывідуальныя і калектыўныя, выкананыя ў любой тэхніцы: акварэль, масла, гуаш... У конкурсе могуць удзельнічаць члены студый выяўленчага мастацтва і пачынаючыя юныя мастакі. Трэба толькі на кожнай рабоце падпісаць сваё імя, прозвішча, узрост, дамашні або школьны адрас.

Лепшыя работы будуць экспанавацца ў ФРГ на дабрачыннай выстаўцы. Кожнага яе ўдзельніка чакае ўзнагарода — пасылка з падарункамі. А пераможцу конкурсу плануюць запрасіць да сябе пагасціць спонсары з Германіі.

ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА

## ПА ПРАЕКТУ «ЧАРНОБЫЛЬ»

Прамым рэйсам з Парыжа ў аэрапорт «Мінск-2» прыбыў транспартны самалёт ІЛ-76. Па новаму маршруту лётчыкам прыйшлося адправіцца, каб даставіць у беларускую сталіцу гуманітарную дапамогу ЮНЕСКА. У кантэйнерах — прадукты, медыкаменты, калядныя падарункі для дзяцей, якім давядзецца сустрэць навагоднія святы ў клініцы інстытута радыяцыйнай медыцыны. Ёсць у пасылках і сюрпрыз —падручнікі французскай мовы. Хлопчыкі і дзяўчынкі, многія з якіх праводзяць у бальнічных палатах па некалькі тыдняў, вяртаючыся дамоў, змогуць цяпер прывітаць сваіх равеснікаў і бацькоў па-французску.

— Груз накіраваны ў Савецкі Саюз у рамках новага даўгачаснага праекта «Чарнобыль», прынятага 135-й сесіяй выканкома ЮНЕСКА ў кастрычніку мінулага года, — расказвае прадстаўнік генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Бруна Лефеўр. — Гэтым рэйсам пачынаецца этап яго практычнай рэалізацыі. У бліжэйшы час пастараемся прыслаць у Беларусь і пацярпеўшыя ад аварыі вобласці Расіі і Украіны сучасную медыцынскую тэхніку, павялічыць пастаўкі медыкаментаў.

*«Культура не абаронена і працягвае гібець. Больш таго — намеціліся негатыўныя тэндэнцыі.*

*У аснове любога грамадства, у аснове духоўнасці грамадства ляжаць ахова здароўя, адукацыя, культура. Да сённяшняга дня на ўсе патрэбы аховы здароўя, адукацыі, культуры ў краіне традыцыйна адпускалі мінімум сродкаў. Урачы, настаўнікі, работнікі культуры былі і ёсць найменш аплатная катэгорыя грамадзян. А жабрацкі ўзровень жыцця даваў і дае сёння адпаведную аддачу ў рабоце. На жаль, у праекце саюзнага бюджэту, які ў бліжэйшы час намечана абмеркаваць Вярхоўнаму Савету, гэты астаткавы прынцып застаўся. Да чаго гэта прывяло, мы ведаем: да заняпаду фізічнага і маральнага здароўя народа.*

*Адбываецца дэградацыя генафонду нацыі. Гэта ў комплексе з эканамічнымі цяжкасцямі нараджае як вынік сутыкненне — процістаянне ў розных рэгіёнах. А калі не хапае культуры, у ход ідуць не аргументы і факты, а кулакі, пруты, арматура...*

*(З выступлення кампазітара І. ЛУЧАНКА на IV З'ездзе народных дэпутатаў СССР).*

ЗРУЧНА ПАСАЖЫРАМ

## АРШАНЦЫ ЕЗДЗЯЦЬ НА «ОПЕЛЬ-АМЕГАХ»

Шэсць камфартабельных легкавых таксі вытворчасці заходнегерманскай фірмы «Опель-Амега» з'явіліся на вуліцах горада. Яны закуплены па рашэнню савета працоўнага калектыву і адміністрацыі аршанскага станкабудаўнічага завода «Чырвоны барацьбіт».

Як вядома, станкі Аршанскі станкабудаўнічы завод пастаўляе ў заходнегерманскую фірму «Эльб-Шліф».

Плата за праезд, як і ў дзяржаўных таксі, па таксометру 20 капеек за кіламетр.

Акрамя іх, вадзіцелі «Чырвонага барацьбіта» абслугоўваюць чатыры гарадскія маршруты на латвійскіх мікрааўтобусах «РАФ».

Начальнік транспартнага аддзела завода Уладзімір Красоўскі адзначае, што работа заводскага таксі дазволіла рэзка знізіць цэны праезду, диктуемыя шматлікімі прадстаўнікамі прыватнага аўтамабільнага бізнесу, якія з пасажыраў бралі плату ў 3—5 разоў даражэй, чым вадзіцелі дзяржаўных таксі.

КАДРЫ ДЛЯ ВЁСКІ

## НОВАЯ КАФЕДРА

Запоўніць адукацыйны вакуум у галіне перапрацоўкі і захоўвання сельгаспрадукцыі заклікана новая кафедра Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.

Мы прывыклі ўжо да сумнай статыстыкі, якая сведчыць, што трэць атрыманага ўраджаю не трапляе на наш абедзенны стол. 1 гэта ў нейкай меры заканамерна. Ні адна ВНУ рэспублікі не рыхтуе для аграпрома спецыялістаў-перапрацоўшчыкаў, вострая неабходнасць у якіх праявілася асабліва ў апошні час. Калгасы і дзяржгасы актыўна ўзяліся за будаўніцтва кансервавых заводаў, каўбасных і вэндлярных цэхаў, робячы гэта, аднак, не заўсёды тэхналагічна правільна. Ды і буйныя аграпрадпрыемствы адчуваюць немалую патрэбнасць у прафесіянальных кадрах. Такія кадры і будзе цяпер рыхтаваць інстытут.

ШОУ-КОНКУРС



«Пад сузор'ем Блізнят» — так называўся шоу-конкурс, які прайшоў у Брэсцкім Палацы культуры аблсаўпрофа. Спаборнічалі чатырнаццаць пар блізнят ва ўзросце ад пяці да трыццаці гадоў. Кожная пара атрымала які-небудзь са шматлікіх прызоў — хто за артыстычнасць, хто за спартыўнае майстэрства, хто за перамогу ў конкурсе на лепшы букет. Атрымалі свае прызы і самыя музыкальныя і абаяльныя і нават самыя юныя ўдзельніцы незвычайнага конкурсу.

НА ЗДЫМКУ: самыя юныя ўдзельніцы шоу-конкурсу «Пад сузор'ем Блізнят» Аня і Маша ПРАНЕВІЧ з сёстрамі Ленай і Таняй ГРЫЦУК, прызнанымі самымі абаяльнымі.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ





Цудоўнае мастацкае выкананне, тонкасценнасць, лёгкасць і, што даволі істотна, невысокі кошт— усё гэта стварае папулярнасць беларускай керамікі. І хаця за пяцігодку Беларускае вытворчае аб'яднанне мастацкай керамікі ўдвая павялічыла выпуск вырабаў, кубкі, талеркі, вазы, чайныя і кававыя сервізы на прылаўках магазінаў не залежваюцца. Вялікі попыт на іх і за мяжой. Але на экспарт у Галандыю, Данію, Чэхаславакію і іншыя краіны адпраўляюцца толькі дзесяць працэнтаў прадукцыі. Бо галоўная задача цяпер— забяспечыць унутраны рынак. 16 мільёнаў вырабаў у год выпускае аб'яднанне. Нягледзячы на тое, што ўсё, як гаворыцца, ідзе нарасхват, калектыў прадпрыемства, клапоцячыся аб прэстыжы, штогод амаль на чвэрць абнаўляе асартымент прадукцыі. Аматараў керамікі ў новым годзе парадуе аб'яднанне многімі арыгінальнымі навінкамі. Над стварэннем іх працуюць і мастакі галаўнога прадпрыемства ў Радашковічах.

НА ЗДЫМКАХ: работніца прадпрыемства Таццяна БАРАН выконвае глазуроўку вырабаў; новы чайна-кававы сервіз.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

✦ Закончыўся рэспубліканскі конкурс на лепшы эскізны праект помніка загінуўшым у Афганістане. Перамаглі ў ім архітэктары Ю. Паўлаў і У. Шульга з Днепрапятроўска. Помнік будзе ўстаноўлены на Востраве Траецкага прадмесця. Кошт пабудовы складзе каля 2-х мільёнаў рублёў.

✦ Адзначыў сваё 30-годдзе калектыў вытворчага аб'яднання «Захадтрансгаз». Сёння ў аб'яднання — тысячы кіламетраў газаправодаў, дзесяткі кампрэсарных і газаразмеркавальных станцый. Найбольшая частка газу пастаўляецца нашай рэспубліцы.

✦ У Віцебску поўным ходам ідзе падрыхтоўка да Дзён сусветна вядомага мастака Марка Шагала, які тут нарадзіўся і жыў у маладосці. На жаль, у Беларусь з Парыжа з-за хваробы не змагла прыехаць дачка вядомага мастака Іда. Па тэлефоне яна выказала вялікую падзяку арганізатарам гэтых Дзён.

✦ У Лідзе ўпершыню дэманстраваўся фільм «Ісус. Евангелле ад Лукі», які доўгі час знаходзіўся ў спісе забароненых.

Прадставіў фільм гледачам прэсвітэр евангельскіх хрысціян баптыстаў-пяцідзесятнікаў. Паказ фільма супаў яшчэ з адной падзеяй: адбылося асвячэнне месца пад новую царкву для праваслаўных. Справа ў тым, што ў горадзе існуе толькі адна невялічкая капліца на могілках, у той час як касцёлаў у Лідзе — два.

# ВІНШАВАННІ

**Паважаная рэдакцыя!**

**Ад усяго сэрца віншуем вас, вашых блізкіх і ўсіх супрацоўнікаў газеты «Голас Радзімы» з Новым, 1991 годам!**

**Зычым усяго самага найлепшага ў жыцці, моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы. Жадаем, каб былі мір і дружба на Зямлі!**

**Мы вельмі перажываем наконт падзей, што адбываюцца ў нас на Радзіме. Калі ўжо гэта ўсё прыйдзе ў нармальнае рэчышча!! Нам так цяжка пераносіць нягоды Радзімы, а галоўнае, што не можам зразумець усёй сутнасці, што і як. Але хочацца спадзявацца, што ўсё будзе добра.**

**Жадаем нашай Радзіме хуткага паляпшэння як палітычнага, так і эканамічнага становішча, каб людзі жылі ў дружбе, міры і дастатку. Гэта наша пажаданне ўсім вам.**

**Міхаіл і Каця ЗВАНАРОВЫ.**

Канада.

**Шматпаважаныя супрацоўнікі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад шчырага сэрца вітаю вас з Калядамі і Новым, 1991 годам і жадаю, каб гэты год прынёс поспех для беларускага народа.**

**Я вельмі зацікаўлены і задаволены газетай, якую атрымліваю прыблізна ад красавіка. Мяне цешаць перамены і падзеі, што праходзяць на маёй далёкай Бацькаўшчыне. Калі б не старасць (60 гадоў), кепскае здароўе, дык паляцеў бы, як птушка, у родны край.**

**Тут, у Аргенціне, ніякіх вестак аб Беларусі не падаецца, толькі вельмі коратка гаворыцца аб падзеях на Украіне, у Літве, Латвіі і Эстоніі.**

**З пашанай да вас**

**ПЕТРАШ.**

Аргенціна.

**Паважаныя члены рэдкалегіі «Голасу Радзімы» і таварыства «Радзіма»!**

**Віншуем вас і вашы сем'і з Новым годам. Жадаем усім вам моцнага здароўя і ўсяго добрага ў жыцці і ў вашай высакароднай рабоце!**

**Уладзімір і Марыя ХІЛЬЧУКІ.**

Канада.

**Паважаная рэдакцыя!**

**Прыміце вялікае прывітанне і мой паклон роднай Беларусі. Віншую ўсіх вас і вашы сем'і з Новым, 1991 годам!**

**Жадаю вам і ўсёй краіне, каб новы год быў багацейшым і лепшым за мінулы. Няхай расцвітае наша дарагая беларуская зямля і ў шчасці жывуць яе людзі.**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**Паважаныя супрацоўнікі «Голасу Радзімы»!**

**Віншую вас з Новым годам!**

**Шлю самыя добрыя пажаданні вам і вашым блізкім, каб новы год па-сапраўднаму ўзнагародзіў вас усім добрым, вялікім шчасцем, дабрабытам.**

**Ды быў бы мір ва ўсім свеце! Гэта, здаецца, самае галоўнае.**

**Са шчырай павагай**

**П. САЛАЎЁЎ.**

Канада.

**Самыя сардэчныя пажаданні шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага ў Новым, 1991 годзе ўсім працаўнікам таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» перасылае**

**Сцяпан КОПА.**

Беласток, Польшча.

## НЕ ТРАПІЦЬ БЫ ЯК МУХА Ў ПАВУЦІННЕ

# ПРАЎДА, ГОРКАЯ ПРАЎДА...

КРЫХУ ўжо даўнавата ў «Голасе Радзімы» (№ 42 за 19 кастрычніка 1989 года) была змешчана гутарка А. Мальдзіса з вашым карэспандэнтам пад загалоўкам «Будаваць масты паміж вамі і намі». З гутаркі А. Мальдзіса я даведаўся, што пан Анджэй Цеханавецкі, які жыве ў Лондане, вярнуў Беларусі слуцкі пояс, а таксама ахвяраваў кнігу і вялікую суму грошай на куплю аператыўнай друкарні для АН БССР. Гэта сапраўды шчырасць пана Анджэя, каб заплаціць беларусам за валоданне іхнімі землямі, дзе быў маёнтак Цеханавецкага. І мне падумалася, што дабрачыннасць пана Анджэя павінна паслужыць за ўзор усім панам, якія акупіравалі Заходнюю Беларусь праз цэлыя дваццаць гадоў. Яны павінны вярнуць усё тое беларускае, што набылі на «крэсах».

Прачытаўшы ўсё сказанае, я згадаў, як жыў калісьці за часам польскіх паноў.

Мне пачаўся сёмы год, і я пайшоў у польскую «паўшэхную» школу ў 1-шы клас. Беларускіх школаў у нас не было: паны іх закрылі. Хадзіць прыйшлося аднаму, бо амаль усе беларусы хавалі сваіх дзяцей ад панскай паліцыі, якая шукала па кладоўках, па свірнах, а знайшоўшы, выганяла ў польскую школу. Школы былі пустыя, бо палякаў-католікаў было вельмі ж мала ў нашых ваколіцах. Польскія настаўнікі былі прысланы з-пад Варшавы, Кракава і з большых гарадоў з захаду Польшчы.

Мой бацька быў іншага погляду адносна навукі. Таму аднойчы, прыехаўшы з кірмашу з Нясвіжа, прывёз тры кніжкі: «Подрэнчнік ензыка польскего для шкул повшэхных»... «Подрэнчнік ензыка польскего для шкул почонтковых», «Учебник русского языка» і «Беларускі буквар». Дзве першыя купіў у польскім магазіне, а апошнюю — беларускую знайшоў паміж старых кніг, якія мясцовы жыд прадаваў на рынку. Вось з гэтых кніг пачалася мая навука. Я біўся як рыба аб лёд, каб не застацца невукам, беларускую і рускую мовы вучыў дома, а польскую ў школе... За гэта пазней, як занялі ў 1939 годзе нашыя землі расейскія камуністы, залічылі мяне польскім калабарантам.

Вось жа, ідучы аднаго разу ў школу, бачу, пасярэдзіне дарогі дыбае стары ў лапцях, у парванай суконнай адзежы, падпеpазаны вяроўкай і нясе пад пахаю пеўня ў Сноў на рынак. Насустрач яму, сярэдзінай дарогі, вязе фурман гурнасноўскую паню, якая з мужам валодала велізарным маёнткам у Гурнаснові. Стары ішоў не схіляючыся з дарогі, гледзячы ўгору, штосьці мармытаў: здаецца, быў амаль сляпы. Фурман, пад'ехаўшы блізка, пачаў крычаць: «Прэч з дрогі, стары хаме». Стары не сышоў. Фурман, звярнуўшы коней направа, пад'ехаў бліжэй ды с256канўў пугаю так, што стары ўпаў на калені і, адбіваючы паклоны перад паняю, пачаў хрысціцца... Фурман затрымаў коней. Раз'юшаная пані пачала крычаць: «Моцней, моцней, ешчэ раз хама»! Фурман выцяў пугаю старога яшчэ некалькі разоў так, што той папоўз на каленях на бок дарогі. З-пад пахі старога вырваўся певень ды з крыкам ускочыў у прыдарожны хмызняк. Мне ўдалося сяк-так злавіць пеўня, бо меў ён звязаныя крылы і ногі шнурком. Аддаючы [пеў]ня старому, я вывеў я[го н]а сярэдзіну дарогі. Стары стаў на калені ды, гледзячы ў неба, пачаў маліцца: «Дай Божа табе, дзіцятка, жыць здаровенькім сто гадоў...»

Я памчаўся [у] школу... Спазніўшыся на цэлую гадзіну, я не прызнаўся кіраўніку, пану Запіўскаму, прычыны спазнення. Кіраўнік пакараў мяне — адседзець цэлую гадзіну ў школе пасля заняткаў і напісаць сто разоў: «Пшыжэкам не пузніць сен до школы в пшышлосці». Вярнуўшыся дамоў, прызнаўся бацьку прычыны кары. Бацька, разабраўшыся, у чым справа, не секанўў па мне сырамятным паскам... Так я вучыўся. Скончыўшы сямігадовую польскую паўшэхную школу, хацеў паступіць у «Гімназіюм войсковэ». Каталіцкі ксёндз, Вольскі, запрапанаваў мне замяніць веру, з праваслаўнага перайсці ў католіка ды сказаў, што гэта будзе гарантыя на далейшую навуку. «Я табе дапамагу, — сказаў ксёндз Вольскі, — але трэба, каб ты штонядзелі прыходзіў у касцёл на набажэнства».

Думка ў мяне была расцярушана... Прага да навукі... Чужая вера... Што рабіць? Не сказаўшы бацьку і матцы, я пайшоў у касцёл, а не ў царкву. У касцёле я пачуўся адзінокім. На мяне напаў страх: што я раблю? Не дачакаўшыся канца «мшы свентэй», я паціхеньку выйшаў з касцёла і чым хутчэй паімчаўся дадому. Удома нікога не застаў, бо бацька і матка былі ў царкве. Хата была замкнёна, я ўлез у цымантовы пограб, дзе скідалася бульба, і пачаў плакаць, як малое дзіця... На другую нядзелю я пайшоў у царкву.

Ксёндз Вольскі пэўнага дня прыехаў да нас. Пытаўся, чаму я не дачакаўся канца «мшы свентэй». Я яму сказаў, што забалеў жывот і я з болем пайшоў дамоў... Бацька зацікавіўся, чаго ксёндз Вольскі пачынае заглядаць у нашу хату. Я сказаў, што ён хоча дапамагчы мне ўладзіцца ў ваенную гімназію... На гэта бацька нічога не сказаў. Я здаў экзамен у тую гімназію (называлі яе «Школа кадэтаў»), аднак мяне адкінулі, бо скарацілі колькасць месцаў...

Прапанова «будаваць масты паміж вамі і намі» для былых паноў, якія акупіравалі Заходнюю Беларусь і нажываліся на мазалях і поце нашага народа, не зышла ў пустое... «Мост», хаця вузенькі, але збудаваны! Чытаючы газету «Голас Радзімы»: відаць, рух па мосце беларускіх вуніятаў туды і назад.

«Мост» дапамог ужо працiснуцца беларускім вуніятам з Англіі, ЗША ў БССР. Яны ўжо выдаюць свой часопіс «Уніят» у межах Беларусі. Яны ўжо закінулі зерне «уніі» ў БНФ. (Уважай, Зянон Пазняк!). Іх маленькая група ў Англіі, але яны ўжо маюць сваю капліцу, свае піўнушкі па-за Лонданам, а ў Лондане гаражы, дом і бібліятэку імя Францішка Скарыны, куды прыязджаюць прафесары з БССР, Польшчы і выглашаюць свае рэфэраты, даклады і г. д. А. Надсон, былы праваслаўны беларус, а сёння галава беларуска - каталіцка - ватыканскай місіі ў Англіі, не запярэчыць, што стараннямі вуніяцкага а. Ч. Сіповіча (пазнейшага епіскапа) быў куплены будынак пад бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны і будынак пад вуніяцкую камяніцу.

Жменька вуніятаў, «грошай не было», а купілі велізарныя будынкі... Скуль грошы ўзяліся? Нехта даў. А як даў, дык нечага хацеў? Задарма ніхто грошай не дае! Пішучы аб нашых вуніятах у межах Беларусі (дзякуючы Гарбачову!), я хацеў бы, каб праваслаўныя беларусы, дзе яны ні знаходзяцца, зразумелі: вунія — гэта пераходны лагер у каталіцызм! Калі ж папаўся ў вунію, дык гэта так, як муха пападаецца ў павуцінне, з якога можа выскачыць на сто мух адна. А. Мальдзіс і іншыя беларускія прафесары з БССР, дзякуючы рэдакцыі «Голасу Радзімы» і таварыству «Радзіма», навязалі кантакты з беларускімі вуніятамі ў Лондане і ЗША, дапамаглі збудаваць «мост», які выкарысталі «Васількі», а. Надсон, Сяднёў, Пікарда і англічанін прафесар Джэймс Дзінглі, старшыня беларуска-ангельскага таварыства ў Англіі. Прафесар Дзінглі, праўду сказаў, што ў яго таварыстве пераважна вуніяты, якіх налічваецца каля пяцідзесяці чалавек. А дзе ж праваслаўныя беларусы?

Напэўна, над гэтым пытаннем задумаюцца праваслаўныя беларусы на Бацькаўшчыне. Дык вось жа, даражэнькія, нас, праваслаўных, у Англіі, па заканчэнні 2-й сусветнай вайны, налічвалася каля 5 тысяч. Гэта пераважна былыя жаўнеры-беларусы з Заходняй Беларусі, якія служылі ў 2-м Польскім корпусе ў Італіі. Корпус, прыбыўшы ў Англію пасля заканчэння вайны, дэмабілізаваўся. Праваслаўныя беларусы пакінулі польскае асяроддзе і заснавалі сваю арганізацыю Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі — ЗБВБ. Арганізацыя была незалежная, накшталт самапомачы. У сувязі з тым, што праваслаўныя беларусы не мелі сваіх святароў і сваёй парафіі, яны рашылі ісці маліцца да польскіх, якія прыбылі з польскім корпусам з Італіі і якія заraз жа заарганізавалі польскую праваслаўную парафію ў Лондане. Яна падлягала юрысдыкцыі польскай праваслаўнай аўтакефальнай царквы на эміграцыі, галавою якой быў епіскап Сава, а пазней епіскап Мацьвей. Абодва былі ярымі палякамі і належалі да так званага «Польскего комітэту вызволеня польскіх зем всходніх». А гэта — Заходняя Беларусь, дзе палякі панавалі праз дваццаць гадоў.

Епіскап Сава заўважыў, што ў польскую праваслаўную парафію прыходзіць адно жменька палякаў з Заходняй Беларусі, якія ўсялякімі дарогамі вырваліся з Сібіры, куды былі вывезены ў 1939 годзе, ды падаліся ў Англію. Ён дазволіў праваслаўным беларусам выбраць царкоўны камітэт ды назваць парафію «беларускай», падпарадкаванай юрыдычна яму — Саве. Гэта была хітрая палітыка, каб даказаць заходнім дзяржавам, што беларусы салідарызуюцца з палякамі за вызваленне «зем всходніх». Беларусы не зразумелі палітыкі Савы, таму, як тыя «святыя баранкі», пайшлі пад яго апеку. Як толькі ў Англію прыбыла беларуска-каталіцкая місія з Ватыкана ды пачала праваслаўных беларусаў пераводзіць у вуніятаў, Сава аказаўся нібы абаронцам праваслаўя перад вуніятамі. Гэтым ён змог справакаваць праваслаўных беларусаў, ды разбіў ЗБВБ. А палякам гэтага і трэба было, бо ЗБВБ была ім як костка ў горле! Што ж сталася? Праваслаўныя беларусы пакінулі ЗБВБ да ачолілі сваю арганізацыю «Хрысціянскае аб'яднанне беларускіх работнікаў у Вялікабрытаніі» — ХАБР. У ЗБВБ засталіся амаль адны вуніяты і каталікі. Айцец Сіповіч, як галава ватыканскай місіі, захапіў уладу ў ЗБВБ ды перанёс Галоўную Управу згуртавання ў дом Мар'янаў. З гэтым днём ЗБВБ сталася арганізацыяй вуніятаў і каталікаў. Вуніяты і каталікі змаглі захапіць уладу ў аддзелах ЗБВБ па ўсёй Англіі. У сувязі з тым, што праваслаўныя беларусы не мелі сваіх святароў, пачалі хадзіць у цэрквы да ўкраінцаў, расейцаў і палякаў. Вуніяты і каталікі хутка выкарысталі гэта ды пачалі арганізоўваць «праваслаўныя» парафіі. Стараннямі а. Сіповіча зарганізавалі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву — БАПЦ, на чале якой стаў украінскі вуніяцкі епіскап. Неўзабаве рукапалажылі ў сан епіскапа беларуса Тамашчыка, але ён, разабраўшыся ў мафіі вуніятаў, закончыў жыццё самагубствам.

Як толькі выбралі ў Ватыкане за папу паляка Вайтылу, дзейнасць беларускіх вуніятаў і каталікаў пашырылася ў Англіі, а пасля і ў межах Беларусі. Як католік ці вуніят, то гэта — паляк, цвердзіць прапаганда польскіх палітыкаў і касцёла. Вось жа гэтых «палякаў» сваёю дзейнасцю павялічваюць нашыя вуніяты і каталікі ў былой Заходняй Беларусі, дзякуючы адлізе Гарбачова. Палякі насаджаюць сёння сваіх каталіцкіх ксяндзоў у Беларусі. Ватыкан праз вуніяцкіх місыянераў імкнецца, каб як найболей праваслаўных перацягнуць у каталікаў, спадзеючыся, што пасля развалу Савецкага Саюза народ Заходняй Беларусі выскажацца за паваротам да Польшчы.

Урад БССР не цікавіцца рэлігійнымі справамі ў Заходняй Беларусі, бо трэба прызнаць, што ён складаецца з расейцаў альбо з русыфікаваных беларусаў і яму не баліць, да каго будзе належаць Заходняя Беларусь. Дык ці не выйдзе так, як было ў часе 1-й сусветнай вайны, калі аддалі Заходнюю Беларусь кайзеру Германіі, а потым, у 1920 годзе, Пілсудскаму?

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

**АД РЭДАКЦЫІ: Друкуючы ліст нашага суайчынніка з Лондана, мы выказваем павагу да яго пункту гледжання, хаця не ва ўсім з ім згаджаемся. Магчыма, яшчэ хто-небудзь з нашых чытачоў пажадае выказацца на гэтую тэму.**

# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАННЕ

## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І ГРОДЗЕНСКАГА

## ФІЛАРЭТА

## ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ ЧЛЕНА СВЯШЧЭННАГА СІНОДА

*«Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях упадабанне».*

(ЛК. 2, 14).

### ЛЮБАСНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ ПРААСВЯШЧЭННЫЯ АРХІПАСТЫРЫ, ПАСТЫРЫ І ЎСЕ ВЕРНЫЯ ЧАДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ!

Зноў настала свята Нараджэння Хрыстовага. І зноў светла радуецца Святая Праваслаўная Царква, заклікаючы нас уславіць Збавіцеля чалавечага роду.

Айцец Царквы святы Іаан Залатавусны вучыць, што дзень Нараджэння Хрыстовага ёсць «свята найважнейшае з усіх... у гэтым свяце маюць пачатак і аснову сваю дзень Богаяўлення і Вялікдзень, Ушэсце Гасподняе і Пяцідзесятніца» (Творения, т. 1, с. 541).

Гэты дзень, які прасіяраецца на стагоддзі, узвяшчае нам, што «прыйшла паўната часін» (Гал. 4,4), што здзейснілася Пасха Віфлеемская і неба з'ядналася з зямлёй. Невыказная любоў Божая да свету, Яго ўпадабанне да людзей адкрылася здзіўленаму чалавечаму сэрцу ў невыказнай тайнасці: «І Слова стала плоцццю і жыло з намі, поўнае мілаты і ісціны» (Ін. 1,14).

Бог увайшоў у нашае жыццё як Чалавек, стаў адным з многіх і ў той самы час Адзіным. У тайнасці Богаўцялеснення ўчалавечаны Гасподзь вызваліў нас ад рабства грэху і смерці, зрабіў нас саўдзельнікамі Божай істоты (2 Пётр 1,4), выказаўшы волю Сваю пра тое, «каб усе людзі ўратаваліся і дасягнулі спазнання ісціны» (І Цім. 2,4).

Далучым жа нашыя галасы да ангельскіх спеваў, якія славяць народжанага Божага Сына, уславім Яго разам з віфлеемскімі пастухамі, паклонімся Яму, як усходнія мудрацы, і радасна ўсклікнем: «Хрыстос нараджаецца — слаўце, Хрыстос з нябёсаў — глядзіце, Хрыстос на зямлі — узносьцеся!»

Ад усёй душы і ад усяго сэрца віншую вас, любасныя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя манахі і манахіні, настаўнікі і вучні духоўных школ, усе пабожныя чады нашай Праваслаўнай Царквы зямлі Беларускай са збаўленчым святам Нараджэння Хрыстовага. Шчыра зычу вам у Новым годзе захаваць святую радасць блізкасці Божай да кожнага з нас, любоў і ўпадабанне заўсёды сутнага з намі Госпада Ісуса Хрыста. Хай не пагаснуць нашыя духоўныя сілы, з якімі мы сустракаем сёння Божага Сына, Які прыходзіць да нас!

Гэта свята яшчэ раз нагадвае нам, што Хрыстос ад Нараджэння Свайго нязменна з намі. Ён ніколі не пакідае і не пакіне Святую Царкву. Гэта павінна жывіць у нас пастаяннае імкненне апранацца ў новага чалавека (Эф. 4,24) і цалкам аддацца волі Таго, Хто дараваў нам радасць збавення.

Усё гэта з'яўляецца асабліва важным у наш цяжкі час, калі на Беларусі, ва ўсёй краіне і ў Царкве нашай пашыраюцца нязгоды, узнікаюць міжусобіцы, слабне дабро і нікчэмніцца любоў у людзях. Менавіта ў гэтых умовах, калі наш Беларускі народ, як і іншыя народы, перажывае шматлікія цяжкасці і маральныя цярпенні, мы зноў мусім задумацца над пытаннем: навошта прыйшоў на зямлю Хрыстос, што Ён прынёс нам і чаго хоча ад нас?

Настаў даволі адказны этап у гістарычным жыцці Беларускага народа, краіны і нашай Царквы, мы абавязаны з асаблівай духоўнай вастрынёй і душэўнай натхнёнасцю адчуць, што сапраўды «дзеля нас чалавекаў і дзеля нашага збавення» нарадзіўся Хрыстос. Мы павінны ўсвядоміць, што ўсё наша жыццё непарыўна звязана з тайнасцю Богаўцялеснення. У ім мы чэрпаем цвёрдасць веры супроць недаверства, радасць надзеі супроць маркоты, сілу любові супроць нянавісці. Таму жыццё наша ў Хрысце — гэта найперш урачыстае і няспыннае сведчанне пра Яго.

Калі да крайнасці абвастрылася барацьба дабра са злом, мы не можам заставацца раўнадушнымі, не маем права на безудзельнасць у лёсе свайго народу і на нядбаласць у служэнні Святому Праваслаўю. Станем цвёрда на бок Хрыста і Яго Царквы, памятаючы Яго папярэджанне: «Хто не збірае са Мною, той раскідае» (Лк. 11,23).

Таму я прашу вас, любасныя, яшчэ болей памножыць свае намогі дзеля паскарэння дабратворных перамен у нашай Рэспубліцы, у нашай Царкве. Мы павінны імкнуцца быць усюды і перш за ўсё там, дзе нашая прысутнасць нязбытна патрэбная: каля пасцелі хворага, поруч з пакрыўджаным, заступаючы шлях няпраўдзе, радуючыся дабрачынству.



Свята Нараджэння Хрыста нясе нам вестку пра братэрства і роўнасць усіх людзей перад Богам, патрабуе ад нас адмысловага подзвігу веры ў перам[illegible] дабра над злом, у перамогу Царства Бож[illegible] Калі мы бачым, што недзе зневажаецца годнасць чалавека, распальваецца міжнацыянальны або міжканфесійны разлад, дык мы абавязаны супроцьпаставіць гэтаму нашу грамадзянскую мужнасць і непахісную вернасць Святому Праваслаўю. Калі недзе яшчэ няма належнай павагі да старых, бацькоўскага кл[illegible] пра дзяцей, дык мы абавязаны неадкл[illegible] прыйсці да іх з дапамогай. Калі недзе ў небяспецы вернасць нашым праваслаўным і нацыянальным традыцыям, духоўнай культуры народу, дык мы абавязаны ўсяляк садзейнічаць іх развіццю і ўдасканальванню.

Нядаўна ў адным сваім выступленні Найсвяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій ІІ гаварыў пра працэс абнаўлення нашага грамадства перш за ўсё як пра «перабудову сэрца». Сапраўды, без памнажэння дабра, без узрастання любові паміж людзьмі і сардэчнасці немагчымае далейшае развіццё. Таму наша Царква дзеля выканання сваёй місіі павінна дапамагчы кожнаму чалавеку адказаць на заклік Хрыста ўчынкамі дабра і міласэрнасці, міру і ўзаемаразумення. Ратавальнай і гаючай пячаткай Царквы нашай павінна быць пазначана ўсё, што служыць славе Божай, развіццю і духоўнаму ўдасканаленню Беларускага народу. Царква гатовая падтрымаць тыя пачыны, якія ўзвышаюць кожнага асобнага чалавека і ўсё грамадства.

Я заклікаю вас да супрацоўніцтва з вернікамі іншых рэлігійных веравызнанняў, з усімі людзьмі добрай волі, каб разам пераадольваць цяжкасці, якія ўзнікаюць у нашым грамадстве і сцвярджаць ідэалы святасці.

З радасцю накіроўваю Каляднае віншаванне нашым братам і сёстрам беларусам, якія жывуць за межамі нашай Радзімы, усім інаслаўным хрысціянам Беларускай рэспублікі. Як хочацца, каб у гэтыя святыя дні ўсе людзі пачулі заклік Апостала: «Радуйцеся, удасканальвайцеся, суцяшайцеся, будзьце аднамысныя, мірныя,— і Бог любові і міру будзе з вамі» (2 Кар. 13,11).

Любасныя браты і сёстры!

На сустрэчу з роджаным Хрыстом склікае нас сёння Святая Царква. Дык выйдзем да Яго са словамі апостала Пятра: «Ты — Хрыстос, Сын Бога Жывога... і няма ні ў кім іншым збавення, бо няма другога імя пад небам, дадзенага людзям, якім належала б нам уратавацца» (Мф. 16,16; Дзеі 4, 11—12). Амінь!

**ФІЛАРЭТ,**
**МІТРАПАЛІТ МІНСКІ І ГРОДЗЕНСКІ, ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ УСЯЕ БЕЛАРУСІ**

Нараджэнне Хрыстова (Каляды)
1990/91 гг.
г. Мінск

## *РЭЛІГІЯ І ДЗЯРЖАВА*



**Свята-Мікалаеўскі брацкі храм у Брэсце амаль трыццаць гадоў скарыстоўвалі не па прызначэнню. Тут размяшчаўся абласны архіў. Ад былой прыгажосці збудавання не засталося і следу. Струхлелыя сцены некалі вельмі прыгожага будынка былі як дакор тым, хто жыве сёння...**

**Веруючыя на працягу шэрагу гадоў дабіваліся вяртання ім гэтага культавага збудавання. Узводзілася яно ў 1904—1906 гадах на ахвяраванні прыхаджан. І толькі летась Брэсцкі аблвыканком прыняў рашэнне аб аднаўленні царквы ў сваіх правах. Тысячы брэстаўчан ахвяравалі зберажэнні на рэстаўрацыйныя работы. Да іх далучыліся завод «Цветатрон», які пералічыў 100 тысяч рублёў, аб'яднанне сродкаў вылічальнай тэхнікі—50 тысяч рублёў, брэсцкая кантора «Саюзгалоўвугаль»—20 тысяч рублёў.**

**На працягу кароткага часу быў адноўлены вонкавы выгляд храма. Заззялі золатам усе сем яго купалаў, увянчаныя крыжамі, вярнуліся на свае месца званы. Па-майстэрску падабраныя фарбы надалі будынку велічны і святочны выгляд. І хаця ўнутры храма яшчэ вядуцца рэстаўрацыйныя работы, тут ужо рэгулярна ідзе служба.**

**НА ЗДЫМКАХ:** Свята-Мікалаеўскі храм; ідзе служба; свечка памяці.

**Фота Э. КАБЯКА.**





*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# НЕ АБЯЛЯЮЧЫ І НЕ АЧАРНЯЮЧЫ

**ГУТАРКА НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА З ПІСЬМЕННІКАМ, ЛАЎРЭАТАМ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БССР БАРЫСАМ САЧАНКАМ**

**— Барыс Іванавіч, мінула некалькі гадоў, як было напісана і надрукавана ваша эсэ «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні». Што, на ваш погляд, змянілася з таго часу ў нашых узаемаадносінах з эміграцыяй?**

— Многа, прычым, у лепшы бок. З надзвычайным поспехам прайшлі ў нас у рэспубліцы выступленні спевака Данчыка і танцавальнага ансамбля «Васілёк», якія прыязджалі з ЗША. Беларусь наведаў адзін з самых вядомых паэтаў і празаікаў беларускай эміграцыі Масей Сяднёў. Ён гасцяваў у родным яму Касцюковіцкім раёне, пабываў у музеях, рэдакцыях газет і часопісаў, у тым ліку і ў «Голасе Радзімы», сустрэўся з пісьменнікамі і чытачамі ў Доме літаратара на вечары яго паэзіі. Падрыхтаваў ён і здаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» кнігу сваіх выбраных твораў. Уражанні ад паездкі на Радзіму М. Сяднёў выказаў у нарысе «З Менску — у Мінск», які быў надрукаваны ў «Літаратуры і мастацтве». Мінск наведалі таксама апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў, дырэктар Скарынінскай бібліятэкі ў Лондане айцец А. Надсон, распарадчык фундацыі імя П. Крэчэўскага Ю. Станкевіч, супрацоўнікі беларускай секцыі радыёстанцыі «Свабода» В. Станкевіч, Л. Урбан, В. Крупскі, амерыканскія і англійскія вучоныя - саветолагі, якія займаюцца вывучэннем і даследаваннем нашай літаратуры і культуры, Т. Бэрд, А. Макмілін, Дж. Дзінглі, Г. Пікарда. На старонках газет і часопісаў — «Літаратура і мастацтва», «Наша слова», «Голас Радзімы», «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Полымя», «Маладосць», «Спадчына», «Нёман», «Крыніца», «Бярозка» і іншых—з'явіліся не толькі інтэрв'ю і гутаркі з нашымі суайчыннікамі, але ў некаторых надрукаваны і творы пісьменнікаў-эмігрантаў — У. Клішэвіча, М. Сяднёва, А. Салаўя, Н. Арсеньевай, Я. Золака, Ю. Віцьбіча, М. Кавыля, У. Дудзіцкага, Р. Крушыны, А. Калубовіча...

Не засталіся ў даўгу перад землякамі і тыя, хто ў свой час па волі лёсу апынуўся за межамі нашай рэспублікі. У 1989 годзе ў Лондане быў утвораны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, які сабраў не адну тысячу долараў і на іх набыў лекі і медыцынскую апаратуру. Яны дастаўлены ўжо ў нашу рэспубліку, перададзены бальніцам у Мінску, Гомелі, Хойніках. Патомак выхадцаў з Беларусі, які жыве ў Англіі, А. Цеханавецкі падарыў фонду культуры адзін з унікальных Слуцкіх паясоў. Вялікую зацікаўленасць праявілі нашы суайчыннікі і да стварэння ў сталіцы Савецкай Беларусі Скарынінскага цэнтра — на сабраныя за мяжою грошы купілі для яго камп'ютэр, а таксама перадалі значную суму грошай на выданне і папулярызацыю нашай спадчыны.

Як сапраўднае свята культуры нашага народа адзначалася ў Беларусі і за яе межамі 500-годдзе славутага першадрукара і асветніка Ф. Скарыны. У гэтым святе прынялі ўдзел прадстаўнікі многіх народаў, у тым ліку і тыя беларусы, што жывуць за межамі нашай рэспублікі, сярод іх і патомак нашага славутага земляка доктар Стэнлі Скарына, які прыехаў да нас з Канады. 500-годдзе Ф. Скарыны было шырока адзначана ва ўсім свеце, але асабліва — у ЗША, у Бібліятэцы ААН, у Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы, у Квінсколеджы Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта, а таксама ў Клiўлендзе ў Беларускім культурным цэнтры «Полацак». Ва ўсіх гэтых урачыстасцях бралі ўдзел беларусы як з нашай рэспублікі, так і тыя, што жывуць за яе межамі. Адбыліся ўпершыню за пасляваенныя гады сустрэчы беларуска-амерыканскай эміграцыі з афіцыйнымі асобамі Савецкай Беларусі — Старшынёй Савета Міністраў БССР В. Кебічам, міністрам замежных спраў БССР П. Краўчанкам, пастаянным прадстаўніком Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных нацый Г. Бураўкіным...

Бібліятэкі нашы папоўніліся новымі кнігамі, часопісамі, газетамі — тымі, якія выходзілі і выходзяць у месцах пасялення за межамі рэспублікі беларусаў, што дае магчымасць больш поўна і ўсебакова вывучаць эміграцыю, яе жыццё і культуру. Каб гэтае вывучэнне было навуковым і мэтанакіраваным, пры Скарынінскім цэнтры арганізоўваецца спецыяльны аддзел.

Для сувязей з эміграцыяй, усімі перасяленцамі з Беларусі як у Савецкім Саюзе, так і за яго межамі створана культурна-грамадскае згуртаванне «Бацькаўшчына».

Прыняты адпаведныя рашэнні і Вярхоўным Саветам БССР, і ўрадам рэспублікі, якія ўзаконілі нашы адносіны з эміграцыяй. Так, у «Законе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай СС[illegible] ёсць спецыяльны артыкул [illegible]о гарантуе садзейнічанне [illegible]захаванню нацыянальна-культурных інтарэсаў асоб беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах». Прыкла[illegible] тое самае пацвердзіў і ў [illegible] рэспублікі ў сваёй «Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР», якая была прынята ў верасні 1990 года.

Цяпер пра беларускую эміграцыю мы сталі ведаць больш. Але, вядома, далёка не ўсё, што варта было б ведаць.

**— Ваша эсэ пра эміграцыю было ўспрынята неадназначна. У нашым друку і за мяжою з'явіліся артыкулы, у якіх выказваліся крытычныя заўвагі. Прычым, нашы вас ушчувалі за згубленую класавую пільнасць, замежныя крытыкі за тое, што вы занадта праяўляеце класавую пільнасць. Як вы да ўсяго гэтага ставіцеся?**

— Нармальна. Справа ў тым, што многія людзі прывыклі глядзець на эміграцыю вачыма ранейшых часоў, бачыць ва ўсіх тых, хто апынуўся за мяжою, толькі ворагаў. Ёсць такія і ў нас, і там, хто вельмі б хацеў забыць, не вылучаць тых, хто ў часы вайны паводзіў сябе не лепшым чынам, заплямiўся супрацоўніцтвам з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Я ж імкнуся прытрымлівацца праўды, фактаў: што было, тое было, з песні, як кажуць, слова не выкінеш. Вядома, не ўсё я ведаю, здараюцца і прыкрыя памылкі, непаразуменні. Скажам, як было ў мяне, калі я пісаў пра М. Сяднёва. Грунтуючыся на паведамленнях акупацыйных газет, я прыпісаў яму тое, чаго, як выявілася, не было. У новым выданні майго эсэ гэтая, ды і некаторыя іншыя памылкі і недакладнасці выпраўлены...

**— А такое выданне рыхтуецца?**

— Так, я над ім працую. У нас жа вельмі мала пакуль што крыніц пра нашу эміграцыю, гадамі яна не вывучалася, а калі што і даходзіла да нас, дык у вельмі ж скажоным выглядзе. Маецца выйсці ў свет у ЗША даследаванне В. Кіпеля на гэтую тэму, але пакуль яго няма. Між тым, цікавасць да беларускай эміграцыі цяпер у рэспубліцы вялікая, асабліва сярод моладзі. Ды і ў навуковым асяроддзі. Мне даводзіцца рэцэнзаваць, а то і пісаць самому матэрыялы пра вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі і для розных энцыклапедычных выданняў, і для бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», які выдае Акадэмія навук БССР. Дарэчы, я падрыхтаваў вялікую анталогію паэзіі беларускай эміграцыі пад назваю «Туга па Радзіме», у якую ўключыў творы пятнаццаці паэтаў, сярод іх ёсць імёны, зусім невядомыя нашаму чытачу. Да кожнага аўтара даюцца біяграфічныя даведкі. Творчасць пісьменнікаў-эмігрантаў паступова ўліваецца ў агульную плынь нашай літаратуры, займае ў ёй сваё месца. Толькі што выйшла ў выдавецтве «Універсітэцкае» кніга паэзіі «Каласы роднай мовы», дзе побач з творамі дарэвалюцыйных беларускіх паэтаў і паэтаў савецкай пары надрукаваны і творы паэтаў-эмігрантаў — В. Адважнага, Н. Арсеньевай, М. Кавыля, Р. Крушыны, Я. Золака, У. Клішэвіча, М. Сяднёва, А. Салаўя.

**— А што цікавае выйшла за апошні час там, за мяжою?**

— Перш за ўсё я назваў бы бібліяграфічную працу «Пяць стагоддзяў Скарыніяны». Яна надрукавана ў Нью-Йорку ў 1989 годзе. Ва ўступе да гэтай вельмі каштоўнай кнігі яе ўкладальнік Вітаўт Тумаш, які раней выступаў пад псеўданімам Сымон Брага, піша, што «з ростам навуковай увагі да жыцця й шматбаковай культурна - духовай спадчыны знакамітага Палачаніна даўно адчувалася патрэба паказальнікаў той Скарыніяны, што з'явілася за пяць мінулых стагоддзяў і асабліва востра адчуваецца яна сёння, калі веда пра старую й новую літаратуру пра Скарыну неабходная не толькі даследчыкам-скарыназнаўцам, але часта й пісьменнікам, гісторыкам літаратуры й мастацтва, публіцыстам». Апублікаваная ў кнізе бібліяграфія ахоплівае Скарыніяну амаль за пяць стагоддзяў — ад 1492 года да 1982, прычым, улічаны як нашы айчынныя крыніцы, так і замежныя. Другая кніга, на якой хацелася б спыніцца, гэта «Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік», складзены вядомым моваведам Я. Станкевічам і выдадзены пасля ўжо яго смерці сынам Юркам. Слоўнік гэты мае амаль паўтары тысячы старонак. Як адзначаюць выдаўцы, «першай і асноўнай мэтай слоўніка было і ёсць пазнаёміць самых жа беларусаў і з багаццем сваёй мовы — адыграць ролю вычарпальнага тлумачальнага слоўніка беларускае народнае мовы на ўсім яе прасцягу яе карыстання... Заданне слоўніка — практычнае... Слоўнік прызначаны памагчы, першае, вучыцца мовы беларускае — усім сваім і чужым; другое, вучыцца мовы расейскае тым беларусам, што гэтага патрабуюць у сваёй адмысловасці». Гэты слоўнік, як і адзначаны вышэй бібліяграфічны даведнік «Пяць стагоддзяў Скарыніяны», варта было б перавыдаць у нас, карысць ад гэтага была б вялікая. Выйшаў чарговы, дзевятнаццаты нумар «Запісаў», які выдае Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Йорку. Сярод матэрыялаў, што там надрукаваны, варта назваць артыкулы А. Баршчэўскага «Ігнат Дварчанін — даследчык нашаніўскай літаратуры», В. Кіпеля «Эміграцыя з Беларусі й газета «Наша ніва», «Успаміны» Л. Акіншэвіча, пераклады вершаў Э. Паўнда (з уступным артыкулам пра яго З. Кіпель) Янкі Юхнаўца. З кніг мастацкай літаратуры можна было б адзначыць выданне зборніка паэзіі з паралельным перакладам на англійскую мову вершаў Анатоля Бярозкі (Мацея Смаршчка) «Трынаццаць вершаў»...

**— Ці плануеце вы асабіста што-небудзь яшчэ рабіць дзеля папулярызацыі творчасці пісьменнікаў-эмігрантаў у нашай рэспубліцы?**

— О, так! Пра анталагічны зборнік паэзіі, падрыхтаваны мною, я ўжо казаў. Цяпер працую над кнігаю літаратурных мемуараў, у якую мяркую ўключыць успаміны, што надрукаваны ў розных эмігранцкіх выданнях, пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Цётку, Алеся Гаруна, Уладзіміра Жылку... У гэтую кнігу мяркую ўключыць таксама аўтабіяграфічныя матэрыялы пра пісьменнікаў-эмігрантаў, іх інтэрв'ю... Ёсць таксама задума выдаць том, а, можа, і больш, эміграцкай про[illegible]. Ну, і, вядома ж, выдаць і [illegible]аторыя ўспаміны. Аднаму мне з такой працай наўрад ці справіцца, тым больш, што ў мяне на стале ляжаць незакончаныя свае творы. Таму думаю падключыць да гэтай справы [illegible]каторых маладзейшых тава[illegible]аў. Я заўсёды прытрымліва[illegible] і прытрымліваюся цяпер той думкі, што ўсё каштоўнае, што створана беларускай эміграцыяй, павінна быць вернута нашаму народу.

**— Вас не палохаюць некаторыя даволі грозныя выступленні «Вячэрняга Мінска», «Политического собеседника», «Советской Белоруссии», «Звязды» ды і некаторых іншых выданняў супраць вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі, іх паводзін у час Вялікай Айчыннай вайны? Ды і супраць вас самога?**

— Не. Займаючыся вывучэннем таго, што было ў 30—40, ды і пазнейшыя гады, я чытаў прыкладна тое самае пра гонар і славу нашага народа — Ф. Скарыну, Л. Сапегу, К. Каліноўскага, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна, Я. Лёсіка, В. Ластоўскага і інш. Ёсць, на жаль, людзі, якія ненавідзяць усё беларускае і шукаюць прычыны, каб абліць брудам кожнага, хто шчыра служыць свайму народу. Што ж да дзеячаў беларускай эміграцыі, то ў кожнага з іх было сваё жыццё, свае погляды. Многія з іх не ведалі Савецкай улады, ніколі пры ёй не жылі. Іх трэба прымаць ці не прымаць такімі, якімі яны былі, не абяляючы і не ачарняючы. Часы забарон, замоўчвання, здаецца, мінуліся. Праўда, аб'ектыўнасць — вось тыя крытэрыі, з якімі трэба падыходзіць да ўсяго, што было. І браць пад увагу не даносы, якія «выбіваў» са сваімі спадручнымі Цанава ад розных «домработніц» і «сведак», а сапраўдныя факты, што мелі месца і пацверджаны дакументамі.

**— Жадаем вам поспехаў у вашай нялёгкай працы!**

— Дзякую.

**Гутарку запісаў**
**В. КРАСЛАЎСКІ.**



**У спектаклях самадзейнага тэатра Крычаўскай сярэдняй школы № 3 Жанна ПІСЧАНКА (на здымку) з задавальненнем выконвала галоўную ролю ў п'есе Я. Купалы «Паўлінка». І касцюм для сваёй гераіні яна змайстравала сама з дапамогай бабулі Марыі Кашура. Гэта Марыя Нічыпараўна навучыла дзяўчыну вышываць і вязаць.**
**Цяпер Жанна ўжо першакурсніца Магілёўскага педінстытута. Але ў выхадныя дні яна любіць прыязджаць у вёску да бабулі ў яе ўтульны, упрыгожаны вышыванкамі дом.**

**Фота В. БЫСАВА.**

## «КАКАДУ» ДОРЫЦЬ РАДАСЦЬ

Вясёлай размінкай перад навагоднім карнавалам для дзятвы Брэста і вобласці сталі выступленні артыстаў маскоўскага міні-тэатра пародзій і эксцэнтрыкі «Какаду».

Гэты творчы калектыў, адзін з удзельнікаў міжнароднага фестывалю «Карнавал міру», прыехаў на гастролі па запрашэнню Брэсцкага музычнага таварыства. Выхаванцы ўсіх 60 дзіцячых садоў горада, большасці школ убачылі спецыяльную эстрадна-канцэртна-гульневую праграму «Вясёлая карусель».

Сустрэчы з артыстамі мінітэатра ў пераднавагоднія дні чакалі таксама дзятву Брэсцкага, Іванаўскага, Камянецкага і Пружанскага раёнаў.

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ НА СЦЯНЕ

Пасля паўвекавога перапынку зноў пачата выданне беларускіх календароў. Маленькую, але вельмі цікавую і карысную энцыклапедыю на беларускай мове падарыў напярэдадні Новага года жыхарам рэспублікі калектыў выдавецтва «Беларусь». Праўда, карыстацца ёю можна будзе ўсяго адзін год: усе лісткі гэтага выдання адрыўныя. Праніклівы чытач ужо, вядома, здагадаўся, што размова ідзе аб насценным календары.

Змяшчае ён самую разнастайную інфармацыю на ўсе выпадкі жыцця. Расказы аб днях тыдня, выдатных людзях рэспублікі, яе гісторыі, практычныя парады па дамаводству, выхаванню дзяцей — усё ёсць у новым выданні. Не абыдзены ўвагай вядомыя дзеячы навукі і культуры ўсіх эпох і народаў, юбілеі якіх будуць адзначацца ў 1991 годзе.

На жаль, тыраж такога патрэбнага ўсім выдання невялікі — усяго 26 тысяч экземпляраў

## У КУПАЛАЎСКІМ ТЭАТРЫ ПАСТАЎЛЕНА П'ЕСА «ТУТЭЙШЫЯ»

# ДЗІЦЯ, ЗАБІТАЕ Ў КАЛЫСЦЫ

Вельмі добры падарунак гледачам зрабілі купалаўцы да 70-годдзя з дня нараджэння свайго тэатра. Нарэшце адбылася прэм'ера «Тутэйшых» Я. Купалы. Як доўга мы чакалі сустрэчы з гэтым цудоўным творам — амаль шэсцьдзесят чатыры гады! З таго часу, як павінна была адбыцца прэм'ера ў 1926 годзе, але дзіця, як кажуць, забілі ў калысцы, не дазволіўшы пабачыць свет. Спектакль забаранілі пасля генеральнай рэпетыцыі.

...Гасне святло ў глядзельнай зале. І мы чакаем сустрэчы з любімымі артыстамі, але... перад намі з'яўляюцца традыцыйныя персанажы батлейкі — ангелы, поп, смерць.

Цікавае сцэнічнае вырашэнне п'есы знайшоў рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай Пінігін — у форме беларускай батлейкі. Менавіта батлейка была першым тэатрам, які зарадзіўся на Беларусі. Спачатку ён паказваў спектаклі толькі на біблейскія тэмы, але пазней пачаў прадстаўляць сцэнкі і свецкага характару. Дзеянне п'есы — з 1918 па 1920 гады — гэта сапраўдны тэатр ваенных і чалавечых страсцей.

На сцэне насупраць адна адной дзве царквы — два сімвалы ўлады, каталіцкі касцёл і праваслаўная царква — прадстаўнікі Варшавы і Масквы, якія ніяк не маглі падзяліць паміж сабой маленькае дзіця, што нарадзілася ў калысцы — Беларусь. Кожны хацеў перахрысціць немаўлятка ў сваю веру, не звяртаючы ўвагі на тое, што ў яго можа быць і свая. І што хата, у якой яно нарадзілася, простая, сялянская, не падобная ні на каталіцкі касцёл, ні на праваслаўныя церамы.

І вось неяк незаўважна мы становімся ўдзельнікамі лёсаў герояў п'есы. Іх аб'ядноўвае адно — яны глыбока няшчасныя, бо не можа быць шчаслівым чалавек, калі яго краіна ў гаротным становішчы, а кіруюць ёю людзі, якія клапоцяцца толькі пра сябе. У п'есе няма вялікіх начальнікаў, але мы пастаянна адчуваем іх прысутнасць на тых партрэтах правадыроў, якія ўпрыгожваюць цэрквы, па паводзінах Мікіты Зносака, які так закруціўся, што нават і сам у сабе разабрацца не можа. Кожны з персанажаў прадстаўлены ў гратэскавым свеце, але менавіта гэта прымушае нас і ўсміхацца, і глыбока задумвацца над сваёй спадчынай і будучыняй. «Ёсць, напрыклад, свабода: што хачу, тое раблю. Узяць хоць бы тое: хто калі да рэвалюцыі ў Менску лузаў семечкі? — ніхто! А цяпер усе і ўсюды — і дома, і на вуліцы. І нават у тэатры лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы...», — так гаворыць аб рэвалюцыі пікантная і какетлівая Наста Падбягунская, якая хоча пражыць жыццё лёгка, нібыта тая муха-цакатуха. Але і яна марыць аб шчасці і мае на яго права. У яе нават і рыцар ёсць — калежскі рэгістратар Мікіта Зносак.

Выдатны малады акцёр В. Манаеў так «улез» у скуру Зносака, што, здаецца, ён ім нарадзіўся. Кожны выхад на сцэну В. Манаева прымушае смяяцца, нягледзячы на тое, што гэта смех скрозь слёзы, бо яго герой — хамелеон, у якога няма нічога святога: «Можна мець светапогляд адзін, думаць другое, а рабіць трэцяе», — вось жыццёвае крэда Мікіты Зносака. Але хто яго такім зрабіў? Думаецца, не бацькі, бо яны простыя вясковыя сумленныя людзі. Зрабілі яго такім улада і асяроддзе — людзі, з якімі давялося працаваць і жыць, такія, як Дама, Спраўнік, Пан, Поп. Увогуле ў іх нават і свайго твару няма, яны выступаюць перад намі як лялькі. Рух — механічны, голас — драўляны, вопратка — карнавальная. Жывыя марыянеткі. Прадукт свайго часу.

А ці магчыма не смяяцца, калі бачыш Генрыха Мотавіча Сьпічыню, тутэйшага пана прафэсара, які вучыць каго хочаш і чаму хочаш, абы грошы плацілі, дрыжыць ад кожнага гуку і прадасць хоць бацьку роднага. Артыст В. Філатаў вельмі дэталёва, падрабязна і скрупулёзна раскрывае характар свайго героя: гэта чалавек-крот, які ўвесь час нешта робіць, мітусіцца. Пальцы нервовыя, неспакойныя; ходзіць на дыбках, азіраецца, вочкі бегаюць. Вопратка з прэтэнзіяй на інтэлігентнасць. У выніку, навучыўшыся і «паляцкай» мове, і нямецкай, у фінале з'яўляецца з чырвоным бантам, каб арыштаваць свайго вучня М. Зносака.

Ёсць і другі настаўнік у п'есе — Янка Здольнік. Малады хлопец, які вельмі любіць сваю Беларусь, свой народ. «Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй». Катэгарычны, гарачы, бескампрамісны — такім паўстаў перад намі Здольнік. Ён вельмі нагадвае тых юнакоў, якія ідуць сёння з бел-чырвона-белымі сцягамі на мітынгі і дэманстрацыі. «Маладое піва заўсёды шуміць», — гэта пра яго. Але нічога маладому настаўніку не чужое. Ён кахае, яго кахаюць. Аленка, дзяўчынка з вёскі, яго вучаніца — каханка Янкі. Спачатку вельмі скавана, нават статычна, у святочнай беларускай вопратцы з'яўляецца яна перад намі разам са сваім бацькам Лявонам Гарошкам. Але потым лялечны вобраз растае, і мы бачым звычайную дзяўчыну, якая за сваім любым пойдзе і ў агонь, і ў ваду. Гэта ў крыві беларускай жанчыны — кахаць, забыўшыся на ўсё на свеце. Аленка шчаслівая, бо Янка побач, а што рабіць [illegible]улі Зносак, якая таксама любіць с[illegible]го недарэку Мікітку, бо ён — адзіная родная крывінка, што трымае яе на белым свеце. У вачах гэтай жанчыны ўвесь боль і страх за сваіх дзяцей усіх мацярок Беларусі. Яна, як тая квактуха, кідаецца на карц[illegible] каб абараніць дзіця. Гэта гарот[illegible] кабета, якая пабачыла так мала шчасця на сваім вяку, увесь час у працы. Яна кінула вёску і пайшла шукаць шчасця ў горад з надзеяй знайсці лепшае жыццё і даць адукацыю адзінаму дзіцяці. Але як утрымацца на плаву ў Менску, дзе змена ўлады адбываецца вельмі часта?

Каларытныя вобразы Заходняга і Усходняга Вучоных. «Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенность, а именно: вопрэкі і історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім іccледованіям і трудам, оцэчество свое белорусы почэмуто называют Белоруссия», — пагардліва паведамляе Усходні Вучоны.

Вельмі ўпартыя, з нянавісцю адзін да аднаго, кожны ў нацыянальнай вопратцы, размаўляюць толькі на сваёй роднай мове — такімі кожны раз з'яўляюцца перад намі Усходні і Заходні Вучоныя.

Так. Вельмі часта са сцэны мы чуем такія думкі і словы, нібыта яны напісаны сёння, а не амаль 70 гадоў назад. У чым несумненны поспех спектакля? У тым, што сама п'еса Купалы аказалася актуальнай, сучаснай. Усё тое, аб чым папярэджваў Я. Купала, збылося. Людзі страцілі лепшыя чалавечыя якасці, у іх душах пасяліўся страх, прыйшла ў заняпад культура, на чале ўлады стаяць людзі, якія клапоцяцца толькі пра сябе; народ для іх, як тыя трусы, на якіх можна ставіць эксперыменты, напрыклад, ГУЛАГ, Салаўкі, Чарнобыль; можна прымаць любыя законы. Купала прадбачыў і голад, і злосць, і недавер, і нават нейкую безвыходнасць.

Усе героі, па думцы М. Пінігіна, гінуць у канцы, і ў іх смерці вінавата ўлада, а помнікам ім і рэквіемам узнімаецца бел-чырвона-белы сцяг, які цягнецца шляхам ад іх магілы да роднай калыскі, і жалобная песня пра Беларусь.

Вельмі хочацца жыць шчасліва. Мы маем на гэта права. І тое, што, хаця і праз 64 гады, адбылася прэм'ера, дазваляе нам марыць аб гэтым і звацца не тутэйшымі, а беларусамі.

**Наталля СЦЯЖКО.**

## ДУХОЎНЫ НАБЫТАК

# БІБЛІЯ СКАРЫНЫ — ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ




Францыск, сын Скарыны з слаўнага горада Полацка, у навуках вызваленых і лекарскіх доктар. Менавіта так наш зямляк — заснавальнік беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, гуманіст і асветнік, вучоны і пісьменнік, перакладчык і мастак — Францыск Скарына падпісваў свае кнігі, якім было суджана стаць выдатнай з'явай еўрапейскай культуры эпохі Адраджэння. Пра магутную постаць асветніка і яго слаўныя справы на карысць людзям простым, паспалітым, як ён пісаў у сваіх прадмовах і пасляслоўях да Бібліі, многа пісалася і гаварылася, асабліва ў апошнія пяць гадоў, аб'яўленых Скарынавымі з нагоды яго 500-годдзя.

Даследчыкі, пісьменнікі, публіцысты многае зрабілі, каб стварыць сапраўды праўдзівы вобраз асветніка, якога дала свету наша беларуская зямля. І тым не менш гэта было яшчэ не ўсё, нам, нашчадкам Скарынавага генія, гэтага было мала, недастаткова. Мы, фактычна, не ведалі саміх твораў Францыска Скарыны. Яны былі нам недаступныя. Вядома ж, што кніг Скарыны ў свеце ацалела літаральна адзінкі і карыстацца імі маглі толькі вучоныя-скарыназнаўцы. Можна сказаць і пра тое, што большасць людзей і не бачыла ніколі кніг першадрукара. Пры стварэнні энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час», які выйшаў у свет у 1988 годзе ў выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», аўтар гэтых радкоў меў магчымасць прапанаваць і быў падтрыманы калегамі-энцыклапедыстамі даць у даведніку факсімільныя выявы ўсіх прадмоў і пасляслоўяў да Скарынавых кніг Бібліі.

У карыснасці гэтай задумы з выхадам энцыклапедычнага даведніка пра Скарыну ў хуткім часе пераканаліся і выдаўцы, і чытачы. Асабліва па душы гэта было даследчыка[illegible] Слова Скарыны аказалася перад [illegible] арыгінале. Чытачы таксама ме[illegible]магчымасць ацаніць працу ўмелых рук і светлага розуму свайго славутага земляка.

Гэта нарадзіла і нов[illegible] больш дзёрзкую ідэю — выдаць [illegible]сімільна ўсе кнігі Скарынавай Бібліі, каб задаволіць попыт на іх не толькі навукоўцаў, але і больш шырокае кола прыхільнікаў таленту асветніка і першадрукара. Ідэя гэта сёння здзейснілася, хоць і не без цяжкасцей. Вытворчасць такіх кніг надзвычай дарагая. Напрыклад, адна старонка Скарынавай Бібліі для выдавецтва абышлася больш за 170 рублёў, а іх у Скарыны 2 400. Нашы страты ў нейкай меры пакрылі ахвяраванні Фонду культуры Беларусі і Экзарха Беларускай Праваслаўнай царквы, а таксама даволі высокая цана выдання.

Першы том Бібліі Скарыны ўжо выйшаў з друку і вельмі прыхільна сустрэты падпісчыкамі — амаль увесь 12-тысячны тыраж будзе выбраны па падпісцы. 1 000 экземпляраў з гэтага тыража накіравана па заказах аматараў кнігі ў Еўропу і Амерыку. Спадзяёмся, што другі і трэці тамы выйдуць з друку ў 1991 годзе.

Трохтомнік аб'яднае 23 кнігі Бібліі, выдадзеныя Ф. Скарынам у Празе ў 1517—1519 гадах на мове, блізкай да мовы свецкага старажытнабеларускага пісьменства, зразумелага простым людзям таго часу, якое застаецца даступным і для сучаснага чытача. Маючы такое выданне, цяпер кожны, хто пажадае, можа пераканацца ў кніжным майстэрстве Вялікага Палачаніна, у арыгінале пазнаёміцца з яго гуманістычнай філасофіяй, ацаніць для сябе хараство, лексічнае багацце і годнасць роднай беларускай мовы. Акрамя таго, мы можам сёння пазнаёміцца з вершамі і акафістамі Скарыны, цудоўнымі гравюрамі, застаўкамі, арнаментамі і буквіцамі ў арыгінале, створанымі самім Скарынам.

Працу над Скарынавымі кнігамі наша выдавецтва на гэтым не спыняе. Ёсць задума выдаць факсімільна і «Падарожную кніжку» першадрукара. Гэта будзе дарэчы: у 1992 годзе грамадскасць адзначыць 470-годдзе з дня нараджэння першай друкаванай кнігі на тэрыторыі нашай краіны. Што ні кажыце, а быць першымі ў такой справе прыемна.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ.**



**У дзесяці савецкіх і замежных выстаўках удзельнічалі выхаванцы народнай дзіцячай мастацкай студыі брэсцкага Палаца культуры аблсаўпрофа. І прывозілі адтуль шматлікія дыпломы, прызы, граматы. Летась студыйцы адправілі свае работы на міжнародны конкурс дзіцячага малюнка, які праходзіў у Японіі пры ўдзеле 67 краін. Юныя брэстаўчане сталі там уладальнікамі пятнаццаці медалёў.**

**Дзесяць гадоў кіруе студыяй таленавіты выхавальнік і ўлюбёны ў справу чалавек Міхаіл Талмачоў. Многія яго выхаванцы сталі прафесіянальнымі мастакамі, а для астатніх жывапіс застаўся захапленнем на ўсё жыццё.**

**НА ЗДЫМКУ: заняткі вядзе Міхаіл ТАЛМАЧОЎ.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР НА 1991 год

Святы сучасных беларусаў падзяляюцца на савецкія, народныя, хрысціянскія (каталіцкія і праваслаўныя). Асаблівa трэба сказаць пра народныя, бо гэта паняцце вельмі шырокае. Сюды адносяцца тыя, што прыйшлі да нас з далёкіх часоў язычніцтва, і хрысціянскія, якія непарыўна звязаны з земляробчым календаром, а таксама савецкія, што адзначаюцца ўсенародна.

Хрысціянства нашы продкі прымалі хоць і паступова, але пад прымусам «зверху». На той час ужо існавалі аграрныя святы, якія былі звязаны з сонечным календаром. Зразумела, выкараніць іх адразу было нельга, а таму царква ўмела іх прыстасавала да хрысціянскіх або замяніла на свае. Да Каляд прыстасавалі «Рождество Христово», да Купалля — Іаана Прадцечу, «Юр'еў дзень» стаў Георгіем Пераможцам, Пярун — Іллёй Прарокам, асеннія святы — Спасамі, Багатуха — Прачыстай і г. д. У хрысціянскіх святах захаваліся і многія народныя і язычніцкія звычаі і традыцыі.

Многія праваслаўныя святы праніклі на тэрыторыю Беларусі з Візантыі разам з хрысціянствам, іншыя былі ўстаноўлены Рускай праваслаўнай царквою. Невялікая колькасць (адзінкавыя) святаў звязана з беларускімі падзеямі. Некаторыя хрысціянскія святы ўзніклі ў II—IV ст.ст., Пакроў — у X ст., іншыя пазней.

Па сваёй значнасці святы падзяляюцца на «двунадзесятыя» (святы культу Ісуса Хрыста і багародзіцы), культу ангелаў і апосталаў, культу Іаана Прадцечы (Хрысціцеля), культу святых, святы культу абразоў і крыжа, прастольныя, зарочныя і запаведныя. Да вялікіх святаў адносяцца «двунадзесятыя» (іх 12, яны ў нашым календары набраны прапіснымі літарамі), аднак самым вялікім з'яўляецца Свята над усімі святамі — Вялікдзень. Вялікдзень і Каляды вернікі сустракаюць у царкве, у якой моляцца ўсю ноч. Абавязкова бывае «ўсяночная» на Вялікдзень.

Па часе праводзінаў праваслаўныя святы падзяляюцца на нерухомыя (трымаюцца адной даты) і рухомыя, якія мяняюць месца ў календары ў залежнасці ад даты правядзення Вялікадня. Вялікдзень можа святкавацца ў межах ад 4 красавіка да 8 мая па новаму стылю (ад 22 сакавіка па 25 красавіка па старому стылю). Праз 50 дзён ад Вялікадня адзначаецца Сёмуха. У залежнасці ад даты Вялікадня змяняецца працягласць мясаеду (ад 5 да 9 тыдняў), калі царквой дазвалялася есці мясныя стравы. З тае прычыны рухомым святам стае Масленіца. Каляды, Вялікдзень і Сёмуха святкуюць 3—4 дні (чацвёрты дзень, каб зберагчы сябе і палеткі ад навальніцы).

## СТУДЗЕНЬ

| н.с. | дні | ст.ст. | |
|---|---|---|---|
| 6 | Н. | 24 | Вялікая куцця |
| 7 | Пн. | 25 | КАЛЯДЫ |
| 13 | Н. | 31 | Багатая куцця |
| 14 | Пн. | 1 | АБРАЗАННЕ. Стары Новы год. Васіля святога дзень. |
| 18 | Пт. | 5 | Бедная куцця |
| 19 | Сб. | 6 | (ВАДОХРЫШЧА) ХРЫШЧЭННЕ ХРЫСТА Ў ІАРДАНЕ |
| 25 | Пт. | 12 | Таццянін дзень |

## ЛЮТЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 | Сб. | 27 | Іаана Златавуста. Бацькоўская субота. |
| 15 | Пт. | 2 | СТРЭЧАННЕ (ГРАМНІЦЫ) |
| 17 | Н. | 4 | Нядзеля сырапусная |
| 18 | Пн. | 5 | Пачатак Вялікага посту |

## САКАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | Сб. | 17 | Памінкі памершых |
| 22 | Пт. | 9 | 40 пакутнікаў (Саракі) |
| 31 | Н. | 18 | УВАХОД ХРЫСТА Ў ІЕ[illegible]ЛІМ (ВЕРБНІЦА) |

## КРАСАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 | Н. | 25 | ВЯЛІКДЗЕНЬ. ДОБРАВЯШ[illegible]ННЕ (Звесткаванне) |
| 16 | Аўт. | 3 | Радаўніца |

* Друкуецца ў скарачэнні.

## МАЙ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 | Пн. | 23 | Юр'е |
| 11 | Сб. | 28 | Кірылы Тураўскага |
| 15 | Ср. | 2 | Барыса і Глеба |
| 16 | Чц. | 3 | УЗНЯСЕННЕ ХРЫСТА (УШЭСЦЕ) |
| 20 | Пн. | 7 | Жыровіцкага абраза Божай маці (1470) |
| 21 | Аўт. | 8 | Іаана Багаслова |
| 24. | Пт. | 11 | Кірылы і Мяфодзія |
| 25. | Сб. | 12 | Сёмушная бацькоўская субота |
| 26. | Н. | 13 | СЁМУХА (ТРОЙЦА) |
| 27 | Пн. | 14 | Дзень святога духа |

## ЧЭРВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Сб. | 19 | Дзмітрыя Данскога |
| 3 | Пн. | 21 | Канстанціна і Алены. Пачатак Пятроўскага посту |
| 5 | Ср. | 23 | Ефрасінні Полацкай |
| 16 | Н. | 3 | Сабор беларускіх святых |

## ЛІПЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 | Н. | 24 | Нараджэнне Іаана Прадцеч[illegible]ры-сціцеля) |
| 8 | Пн. | 25 | Пятра і Фяўроніі |
| 12 | Пн. | 29 | Апосталаў Пятра і Паўла |
| 13 | Аўт. | 30 | Сабор 12 апосталаў |
| 17 | Ср. | 4 | Андрэя Рублёва |
| 18 | Чц. | 5 | Сяргея Раданежскага |

## ЖНІВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | Пт. | 20 | Іллі Прарока |
| 6 | Аўт. | 24 | Барыса і Глеба |
| 14 | Ср. | 1 | Пачатак Успенскага (Спасава) посту. |
| 19 | Пн. | 6 | ПРААБРАЖЭННЕ (ПЕРАТВАРЭННЕ) ХРЫСТА (СПАС) |
| 26 | Пн. | 13 | Мінскага абраза Божай маці (1500 г.) |
| 28 | Ср. | 15 | ПРАЧЫСТАЯ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 11 | Ср. | 29 | Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы (Галаварэз) |
| 21 | Сб | 8 | НАРАДЖЭННЕ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ (БАГАРОДЗІЦА) |
| 27 | Пт. | 14 | УЗВІЖАННЕ КРЫЖА ХРЫСТОВА (ЗВІЖАННЕ) |

## КАСТРЫЧНІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14 | Пн. | 1 | Пакроў прасвятой Багародзіцы |

## ЛІСТАПАД

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | Сб. | 20 | Змітроўская бацькоўская субота (Дзяды). Памінанне вайскоўцаў. |
| 27 | Ср. | 14 | Піліпа. Пачатак піліпаўскага посту. |

## СНЕЖАНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4 | Ср. | 21 | Уводзіны ў храм прасвятой Багародзіцы |
| 6 | Пт. | 23 | Аляксандра Неўскага |
| 13 | Аўт. | 30 | Андрэя Первазванага. |

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Прашу дапамагчы мне ў пошуках трох маіх стрыечных сясцёр **Ганны Васільеўны, Марыі Васільеўны** і **Лідзіі Васільеўны** (у дзявоцтве мелі прозвішча **ХОЛАД**). Яны нарадзіліся і жылі раней у горадзе Чыкага па адрасу: USA, 132, Homestana La-Pvang, pk III 605-5. Іх бацька — **Васіль ХОЛАД.** Маці **ПЛЯНТА Надзея Васільеўна** (мая цётка) даводзілася роднай сястрой маёй маці **ПЛЯНТА Веры Васільеўне.** І жылі яны разам з бацькам (маім дзедам) **ПЛЯНТАМ Васілём Ануфрыевічам** у вёсцы Забалаць Забалоцкай воласці Мінскай губерні, пакуль цётка яшчэ да рэвалюцыі не выехала ў Амерыку разам са сваім братам **Іванам.** Перапіска з імі вялася да 1974 года. Атрымлівалі мы ад іх і матэрыяльную дапамогу.

Я хачу аднавіць сувязі з амерыканскімі сваякамі і ўсіх, хто што-небудзь ведае пра іх, прашу пісаць на адрас:

**БССР, 223710, Мінская вобласць, г. Салігорск, вул. Казлова, дом 21, кв. 91. АЛЬШЭЎСКАЙ Ганне Аляксандраўне.**

Тры старэйшыя браты майго бацькі **БЕКЕТЫ Адама Міхайлавіча,** якіх звалі **ПЁТР, ІГНАТ** і **ВІКЕНЦІЙ,** у 1910—1917 гадах выехалі ў ЗША з вёскі Скрэндзевічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Жылі ў Чыкага. Пасля смерці апошняга з братоў **ВІКЕНЦІЯ** сувязь з родзічамі перапынілася. **ПЁТР** памёр халасцяком, у **ІГНАТА** было дзве дачкі, а ў **ВІКЕНЦІЯ** — сын.

Стрыечны брат бацькі **Клемент БЕКЕТА** эмігрываваў у Канаду (Ванкувер) таксама з вёскі Скрэндзевічы. У 1977 годзе ён прыязджаў на Беларусь, абяцаў пасля вяртання ў Канаду выслаць адрасы сваякоў са Злучаных Штатаў, але хутка памёр. Жыў ён па адрасу:

**2655 E4Tn ave, Vancouver V5M1K5 B. C. Canada, 2550743**

Ведаю, што ў Ванкуверы знаходзіцца яго сын і дачка.

Прашу ўсіх, хто што-небудзь ведае пра маіх сваякоў, пісаць мне на адрас:

**БССР, 220139, г. Мінск, п/а Сцяпянка, д. 19, кв. 52. БЕКЕТУ ІВАНУ АДАМАВІЧУ.**



Замежныя сваякі БЕКЕТЫ Івана Адамавіча.

# ДЗЕСЯЦЬ ЛЕПШЫХ СПАРТСМЕНАЎ

**Напярэдадні новага года завершаны традыцыйны завочны конкурс «Дзесяць лепшых спартсменаў Беларускай ССР 1990 года». Яго праводзіла асацыяцыя спартыўнай прэсы БССР.**

Спартсменам нумар адзін названы заслужаны майстар спорту па цяжкай атлетыцы **Леанід ТАРАНЕНКА** (Мінск, ДФСТ прафсаюзаў). Ён быў першым у рэспубліцы таксама ў 1984 годзе.

На наступных месцах: 2—3. **Святлана БАГІНСКАЯ** і **Віталь ШЧЭРБА** (абодва — Мінск, «Працоўныя рэзервы») — спартыўная гімнастыка, 4. **Віктар РАНЕЙСКІ** (Бабруйск, «Дынама») — веславанне на байдарках і каноэ, 5. **Ігар ЖАЛЯЗОЎСКІ** (Мінск, Савецкая Армія) — канькабежны спорт, 6. **Уладзімір ЯПРЫНЦАЎ** (Мінск, Савецкая Армія) — барацьба самба, 7. **Барыс ГЕЛЬФАНД** (Мінск, ДФСТ прафсаюзаў) — шахматы, 8. **Ірына ШЫЛАВА** (Гродна, «Дынама») — стральба кулявая, 9. **Сяргей ДЗЕМЯШКЕВІЧ** (Мінск, ДФСТ прафсаюзаў) — барацьба класічная, 10. **Ігар АСТАПКОВІЧ** (Гродна, ДФСТ прафсаюзаў) — лёгкая атлетыка.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 1797.